Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару **15** гр.

№ 14. Вільня, пятніца 3 жніўня 1928 г. Год II.

# НАРОД

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.**

**РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ:**
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

**ЦАНА АБЕСТАК:**
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

**Выходзе 4 разы у месяц.**

## АБ ПАМОЗЕ НА АДБУДОВУ.

Разьяжджаючы, як пасол, па местачках і сёлах Зах. Беларусі, асабліва Лідзкага выбарнага вокругу, каторы мяне выбраў у Сойм сваім прадстаўнікам, я чую ад беларускага насяленьня шмат нараканьнеў і дастаю мноства жальбаў на розныя несправядлівасьці. Крыўды й несправядлівасьці бываюць у патрэбах культурных, гаспадарскіх а таксама з боку адносінаў паліцыі й адміністрацыі да беларускага насяленьня. Няма таго месца, дзе-бы ня скардзіліся на недаваньне беларускай школы; вельмі шмат скаргаў ёсьць у справе адбудовы. Нараканьні на несправядлівасьць у справе адбудовы чуюцца ў большай або меншай меры ўсюды, але найбалей іх у пав. Вялейскім; у гэтым павеце справядлівасьць гэных нараканьнеў відавочна, яна проста кідаецца ў вочы і абурае да глыбіні душы кожнага справядлівага чалавека. Паласа ад Смаргонь на Данюшава, Жойдзішкі, Вішнева й да Сьвіра была на лініі нямецка-расейскага фронту і дзеля таго будынкі тут чыста зьністожаны за вайны. З гэтае прычыны як я 24 чэрвіня рабіў веча ў Вішневе, да мяне зьвярнулася шмат мясцовых грамадзян з жальбамі, што яны пакрыўджаны пры выдаваньні памогі на адбудову. І запраўды аказалася, што бедныя сяляне або вічагусенкі не дасталі на адбудову, або ня болей як 200 зал., тады як гаспадары дастатныя падаставалі значныя памогі. Напрыклад Аляксандар Курак зь Вішнева (каля Сьвіра). Перад вайной у яго была хата, істопка й сені, 2 хлявы, гумно й пуня. За вайны ўсё чыста зьністожана. Цяпер ня мае жадных будынкаў, хату дабудаваў толькі да вакон, а далей ня мае за што ставіць. Жыве ў вакопе вельмі нягодным, Пазыку прынцыпова далі летась 200 зал., але вылічылі за работу каля дрэва, што прыгналі з-за Вялейкі па Вяльлі і далі толькі 112 зал. Аляксандар Галгоўскі зь в. Лыцавічы Вішнеўскай вол., усе будынкі былі зьністожаны, прасіў пазыкі на адбудову ў ліпні 1927, але нічога не дастаў.

Просьле веча я пачаў запісаваць скаргі на няправільнасьці ў справе памогаў на адбудову, але аказалася, што скаргаў ёсьць толькі, што, каб запісаць іх усе, трэба было-б перапісаць найменей палову ўсяго насяленьня а то й цэлых тры чэцьверці. Дзеля таго, запісаўшы дзесятка паўтара, мы згадзіліся, што запісаныя будуць толькі, як прыклад, а што выясьніцца для іх, тое будзе і ўсім незапісаным.

Зацемлю тутака, што як я пасьля даведаўся на вечу быў і рэфэрэнт адбудовы, прыехаўшы зь Вялейкі, але ён, чуючы скаргі, на даў жадных паясьненьнеў.

Выясьніўшы як стаіць справа з адбудовай і на што нашыя земляробы-гаспадары маюць права, я тутака падаю гэта дзеля іх ведама й карыстаньня.

### Скуль ідуць грошы на адбудову?

Грошы на адбудову йдуць зь лясной дані з прыватных лясоў. Дань бярэцца з усіх лясоў аднолькава, а памагаць павінны тым земляробам, што гэтага патрабуюць. З гэтага відаць, што *памога ў розных мясцох для зьнішчаных вайной гаспадарак павінна быць аднолькавая.* Дадаю гэта дзеля таго, каб па прыкладу адных мясцовасьцеў іншыя даведаваліся, як павінна быць у іх і на што яны маюць права.

### Хто мае права дастаць памогу на адбудову?

Гаспадары, каторых усе будынкі, ці толькі часьць будынкаў былі зьністожаны вайной, маюць права на пазыку ад 80 да 100 процэнтаў вартасьці зьністожаных вайной гаспадарак. Гэта знача, што калі зьністожаныя вайной будынкі варты былі—на цяперашнія грошы—1000 (тысяча) зал., дык гаспадар мае права дастаць пазыкі ня меней як 800 і не балей 1000 зал.

Хто *ані* яшчэ не забудаваўся і пазыкі не дастаў, той найперш мае права на пазыку. Хто дастаў пазыку і часьць паставіў будынкаў, але будавацца ня скончыў, бо ня стала грошаў, мае яшчэ прасіць пазыкі. Гэтыя пазыкі выдаюцца ў Старастве. Але хто *забудаваўся* й запазычыўся на будоўлю, той, хоцьбы й не дастаў пазыкі ці дастаў яе мала, у Старастве пазыкі дастаць ня можа, але мае права дастаць пазыку даўгарочнаю (доўгатэрміноваю) на сплату даўгу, пазычанага на будоўлю ў Земляробскім Банку ў Вільні, а з Палескага вайводзтва—ў Луцку.

На жаль з гэтага права мала хто з нашых сялян можа скарыстаць, бо Земляробскі Банк выдае даўгарочнаю пазыку толькі тым гаспадаром, што маюць гіпотэку або прынамся згаджаюцца пачаць яе заводзіць. Гэт'кім парадкам найбяднейшым тутака найгарэй і трэба было-б падумаць як выйсьці з гэтага нягоднага палажэньня; але гэта ўжо іншае пытаньне.

### Як дамагацца пазыкі на адбудову?

Хто мае права на пазыку на адбудову, але не дастаў яе ці дастаў недаволі, няхай дамагаецца пазыкі. Дзеля гэтага трэба пайсьці ў воласьць, узяць тамака за 10 грашоў блянк на просьбу і іншыя патрэбныя да гэтага паперы. Плаціцца толькі 10 грашоў за блянк на просьбу, усе іншыя паперы дастаюцца дарма, ня трэба так-жа жадных штэмплёвых значкоў (гэрбовых марак). Запоўніўшы блянк, трэба яго падпісаць, за няпісьменнага падпісуюцца па яго просьбе 2 іншыя. Подпіс прашэльніка пад просьбай войт павінен пасьведчыць дарма.

Войт яшчэ сьцьвярджае, ці пададзеныя факты аб зьнішчаных вайной будынках ды ці аб цяперашнім стане адбудовы адпавядаюць праўдзе.

Як-жа давесьці войту колькі былі варты на цяперашнія грошы зьністожаныя вайной будынкі? Гэта даводзіцца або 1) на аснове ацэны ваенных комісьеў, або 2) пры помачы дасьледаваньня будаўнічага рэфэрэнта, або 3) пры помачы сьведак.

Просьба на адбудову падаецца ў староства, пры гэтым можна яе або самому перавесьці ці пераслаць у староства, або пакінуць у воласьці дзеля перасланьня.

У старастве Пазычковая Комісыя Адбудовы пастанаўляе колькі каму прызнаць пазыкі. Пазычковая Квмісыя Адбудовы складаецца: 1) із павятовага старасты, як старшыні Комісыі, 2) тэхнічнага адумыслоўца, назначанага Міністэрствам Публічных Работ, 3) дэлегата Ізбы Скарбовай, 4) 2 дэлегатаў ад павят. Сойміку і 5) па 2-х дэлегатаў ад кожнай Валасной Рады. Калі прашэльнік не здаволены з пастановы Комісыі ён мае права падаць апэляцыю да тае-ж самае Комісыі, ў працягу 30 дзён ада дня дастаньня пастановы Комісыі. Можа так-жа нездаволены прашэльнік зьвярнуцца із скаргаю да Адзьдзелу Адбудовы ў Вайводзтва. Вайводзкі Ўрад згодна з правам нагляду можа пастанову Пазычк. Комісыі Адбудовы зьмяніць або, навет, адцаліць сяброў Комісыі.

Пазыка даецца на 10 год на 4 процэнты годніх, пры гэтым за першыя два гады процэнту не бяруць. Пазыка мае быць выкарыстана ў працягу двох год ада дня дастаньня яе. Просьле гэтых двох год што год сплачуецца адна дзесятая часьць пазыкі, пры гэтым першая сплата настае 1-га сьнежня просьле двох год ад дня дастаньня пазыкі.

Але трэба памятаць, што ў гаспадароў, каторыя дзеля свае беднасьці ня могуць аддаць заплачаных грошаў, пазыка вельмі часта ліквідуецца (umarza się). Дзеля таго зараз-жа па ўжыцьці пазыкі трэба падаваць у староства просьбу аб яе ліквідаваньні (umorzeniu), чым барджэй *па ужыцьці* пазыкі такая просьба будзе пададзена, тым лепей. Позна пададзеная просьба аб ліквідаваньню пазыкі можа яшчэ нябыць разгледжана да сплаты першай раты пазыкі.

Канчаючы, прашу мне выбачыць, што не зрабіў гэтага выясьненьня раней.

Патрэбаў ёсьць гэтулькі, што каб іх управіцца рабіць, трэба было-б цэлае міністэрства. Калі-б наш народ быў арганізаваны ў сваю Беларускаю Сялянскаю Партыю ды ў Беларускі Гаспадарскі Зьвяз, дык можна было-б зрабіць усе справы і ў пару.

*Д-р Я. Станкевіч*,
пасол на Сойм.

## Агульная Зборка Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

Па зацьверджаньню статуту Беларускага Гаспадарскага Зьвязу на ўсю Рэчпаспалітаю дзейнасьць Зьвязу пашырылася на ўсе беларускія землі пад Польшчай і трэба было выбраць Цэнтральны Ўрад Зьвязу на ўсю Зах. Беларусь.

Дзеля гэтых выбараў і іншых спраў была склікана (згукана) на 25 ліпня сёл. ў Вільні Агульная Зборка Зьвязу. На зборцы, апрача віленскіх сяброў Зьвязу былі также прадстаўнікі з правінцыі (зь Віленскага й Наваградзкага вайводзтва).

Зборку адчыніў і прывітаў прысутных пас. д-р. Я. Станкевіч. Далей інжынер-аграном М. Гузоўскі прачытаў цікавы рэфэтат аб гаспадарскай працы Зьвязу.

Пас. д-р Я. Станкевіч выясьніў, якую Зьвяз вядзе культурнаю працу. У жывой дыскусыі, у каторай прыняло ўчасьце шмат учасьнікаў Зборкі, выясьнілася неадкладная патрэба закладаць усялякага роду коопэратыва—малачарні, ляпныя, касы. Большасьць прысутных выказалася, што замест коопэратываў спажывецкіх ляпей закладаць коопэратывы гандлёва-земляробскія, каторыя прадавалі-б земляробам хвабрычныя вырабы, а самі куплялі-б у земляробаў вырабы земляробскія (збожжа, бульбу, лён і інш.). Пастанова аб гэтым, як і аб шырокай акцыі за беларускія пачаткавыя школы ўрадовыя прынята аднагалосна. Пастанаўлена также пры Таварыствах закладаць біблётэкі і пасылаць з цэнтру лектароў для чытаньня лекцыеў. У павятовых мястох пастаноўлена закладаць беларускія кнігарні.

Прынята пастанова аб выдаваньню гаспадарскага часапісу „Беларускі Гаспадар”, каторы будзе выходзіць двойчы (два разы) ў месяц. Па меры матарыяльных магчымасьцеў пастаноўлена купіць кінэматографічны апарат дзеля паказаваньня прасветневых абразоў пры чытаньню лекцыеў у Т-вах Зьвязу. Пастаноўлена также ў Вільні арганізаваць гандлёва-копэратыўныя курсы, а ў Лідзе дзявоцкаю гаспадарскаю школу. Арганізаваньне курсаў даручана інж. М. Гузоўскаму.

У *Цэнтральны Ўрад* Зьвязу абраны 7 чал.: інжынер-аграном М. Гузоўскі—за старшыню, Ю. Мурашка і д-р Я. Станкевіч—за віцэ-старшынеў, А. Коўшыха—за сакратарку, А. Астроўская, М. Станкевіч і М. Вінцукевіч—сябры Ўраду.

Зборка прайшла пры вельмі бодрым і дружным настрою.

## „Беларускі Гаспадар“.

25. VII. сёл. на Агульнай Зборцы Бел. Гасп. Зьвязу пастаноўлена выдаваць беларускі часапіс гаспадарскі пад назовам „Беларускі Гаспадар“. Часапіс будзе выходзіць двойчы (два разы) ў месяц пад рэдакцыяй інж.-агр. М. Гузоўскага.

У часапісе будуць адзьдзелы: 1) земляробскі—аб урабляньню зямлі і продажы земляробскіх прадуктаў, 2) гандлёва-коопэратыўны, 3) адзьдзел хатняга, земляробскага і іншага прамыслу, 4) гаспадарска-праўны—аб усім, што трэба ведаць нашаму гаспадару (аб памозе на адбудову, пазыках ў Земляробскім Банку й касах, аб штрахоўцы, сэрвітутах і інш.).

Рэдакцыя часапісу: Вільня, Астрабрамская 15 кв. 3, куды й просім зварочавацца падпішчыкаў, будучых супрацаўнікоў і прадаўцоў „Бел. Гаспадара“.

## Беларускі Гаспадарскі Зьвяз пашыраецца.

Зацьверджаны Т-вы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу ў м. *Барунах* і м. *Жупранах* Ашмянскага пав.

У вапошнім часе закладзены Т-вы Бел. Гасп. Зьвязу ў ніжэй пададзеных мясцох:

ў м. *Маладэчне*—у хаце Янкі Кісяля проці рынку; старш. Я. Кісель, сакратар Ганэцкі;

у м. *Лебедзеве* Маладэчанскага пав., Выганавая вул. № 24, старш. Васіль Зуй;

у м. *Дакудаве* Лідзкага пав. у хаце Паўлы Гузоўскага, старшыня—Пётра Рыбак, скарбнік—Паўла Гузоўскі, сакратар—Мікалай Лобко;

у в. *Гінеўцы* Куцеўскай вол., Ашмянскага пав., старшыня—Станіслаў Варановіч, скарбнік—Станіслаў Ш[illegible]кі сакратар—Сымон Анбражэвіч, заступнікі: Казімір Іжбіцкі, Уладыслаў Анбражэвіч;

у м. *Ашмяне*, вул. Пілсудскага № 44; старш. В. Казлоўскі, скарбнік—Т. Сянкевіч, сакратар—А. Краўчонак, заступнікі: Марцін Пясэцкі і Станіслаў Клачкевіч.

**Кнігарня Бел. Гасп. Зьвязу**

закладзена ў Ашмяне, дазваленьне ўжо дастана, у борздым часе кнігарня пачне функцыянаваць.

## Як закласьці Таварыства Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

Статут Беларускага Гаспадарскага Зьвязу зацьверджаны ўжо на ўсю Рэчпаспалітаю. Дзеля таго Б. Г. Зьвяз мае права й будзе працаваць па ўсёй Заходняй Беларусі, гэта значыцца ў вайводзтве Віленскім, Навагрудзкім, Палескім і ў беларускай часьці вайводзтва Беластоцкага (паветы: Ваўкавыскі, Бельскі, Сакольскі, Горадзенскі, Беластоцкі й Аўгустоўскі).

У Вільні ўжо абраны Цэнтральны Урад Б. Г. Зьвязу і Рэвізыйная Комісыя на ўсю Зах. Беларусь.

Па мястэчках і вёсках арганізуюцца Таварыствы (Гурткі) Беларускага Гаспадарскага Зьвязу. Цяпер арганізавана ўжо некалькі дзесяткоў Таварыстваў Зьвязу. Як у якім павеце будзе арганізавана значная колькасьць Таварыстваў Зьвязу, тады дэлегаты Т-ваў зьедуцца на Зьезд у павятовае сваё места і закладуць Адзьдзел Зьвязу.

З Цэнтральнага Ураду, Цэнтральнай Рэвізыйнай Комісыі і Старшынеў Адзьдзелаў створыцца Рада Б. Гасп. Зьвязу.

*Як-жа закласьці Таварыства* Бел. *Гасп. Зьвязу?*

Таварыствы Бел. Гаспадавскага Зьвязу можна закладаць двума спосабамі.

П*ершы спосаб*. Жадаючыя закласьці т-ва*) Зьвязу, наказуюць (паведамляюць) аб гэтым Цэнтральнаму Ураду Зьвязу (Вільня, Астрабрамская 15, 3). У гэтым наказе (паведамленьні) трэба паказаць хто (прозьвішчы людзёў) хоча быць закладчыкам Т-ва ў іхняй мясцовасьці, 2) дзе (ў якой вёсцы ці мястэчку і ў чыёй хаце) і калі (паказаць дзень і гадзіну) хочуць зрабіць Арганізацыйнаю Зборку Т-ва і 3) хто будзе адказным за парадак на зборцы.

Дастаўшы гэткі наказ, Цэнтральны Урад пасылае ад сябе заяву павятоваму старасьце аб маючай быць арганізацыйнай зборцы.

Каб дастаць ад стараства пасвітаваньне аб прыйме заявы, лепей каб заяву ад Цэнтральнага Ураду падаваў у старастве хто колечы зь мясцовых людзёў, дзеля чаго Галоўная Управа мусіць выслаць на рукі такому чалавеку заяву да старастве із статутам Зьвязу.

Калі павятовае места далёка, то заяву можна падаваць у старастве праз каманданта мясцовага паліцэйскага пастарунку і таксама дастаць ад яго паквітаваньне.

Заяву трэба падаць так, каб яна была ў старастве за тыдзень да зборкі або прынамся за тры дні.

Дастаўшы ад старастве дазваленьне, можна зборку рабіць.

Калі закладчыкі Т-ва ёсьць ужо сябрамі Зьвязу, дык дазваленьне на зборку ад старасты не канечне мець, але даволі толькі падаць заяву не пазьней як за тры дні да зборкі.

За старшыню Зборкі й сакратара выбіраецца хто-колечы з прысутных.

На кожнай Агульнай Зборцы Т-ва можа быць прадстаўнік улады, прыкладам паліцыянт з адпаведнымі паўнамоччамі ад каманданта пастарунку.

На зборцы трэба пастанавіць дзе (у чыёй хаце) будзе сяліба Т-ва, ці, начай кажучы, дзе будзе памяшчацца Урад (Праўленьне) Т-ва, райён дзейнасьці Т-ва, выбраць Урад Т-ва. Аб усім гэтым напісаць пратакол. Копію пратаколу, пасьведчанаю сэкратаром, трэба прыслаць Цэнтральнаму Ураду Зьвязу ў Вільні.

Выбраны Урад Т-ва піша ад сябе заяву (пабеларуску) пав. старасьце. Заява будзе гэткая:

Пану Старасту N. павету

у N.

Ураду Таварыства Беларускага Гаспадарскага Зьвязу у . . . . (назоў мясцовасьці) N. павету.

З А Я В А.

Гэтым маем гонар прасіць зарэгістраваньня закладзенага на арганізацыйнай зборцы ў . . . . (назоў мясцовасьці) такога й такога дня (паказаць дзень і месяц зборкі) у . . . . (назоў мясцовасьці) Т-ва Беларускага Гаспадарскага Зьвязу. Райёнам дзейнасьці Т-ва будзе . . . . (паказаць якая воласьць або колькі воласьцеў); сяліба Т-ва будзе . . . . Да Ураду Т-ва абраны: за старшыню—. . . ., скарбніка—. . . ., пісара—

*) Калі хоць тры чалавекі ёсьць, жадаючых закласьці т-ва, дык яно можа быць заложана.

---

ј=й (мој=мой, јіх=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч).

## Новая зямля. 14)

ПОЭМА.

(Глянь № 13 „Народу“).

XVII.

### В О Ў К.

Ў будныя дні ўставалі рана:
Няма калі хварэць на пана,
Няма чаго чакаць панукі,
Калі работы поўны рукі—
Јзноў закладајся на нядзелю.
Садзілась маці за кудзелю;
Цяплеј мужчыны абуваліс[ь],
Ў сваю работу запрагаліс[ь].
Міхал, пакуль не расьсьвітае,
Ідзе Антосю памагае,
Бо трэба кончыць з малацьбою,
Каб не карцела над табою.
Дарэктар сам з свае ахвоты
Ў гумно любіў рабіць налёты,
Бо ён быў хлопец працавіты
І да работы страх сярдзіты,
Хоць быў яшчэ малы і кволы,—
Адлічны хлопец і вясёлы!
Јідзе з двара часамі ў хату—
Аб чым тут ходзіць Яську-хвату—
Ён на дрывотню, бярэ дровы:
Ён услужыць усім гатовы,
Гаспадаром і гаспадыні,
Бо што тут зробіцца хлапчыне?
Раз ён абсацам зачапіўся,
З дрыўмі зьнячэўку паваліўся
На крок, ня далеј, ад парога,
Але ўсхапіўся і нічога,
І толькі глянуў на абцасы,*)—
Былі ў јіх моладасьць і часы,
Калі рабілі выкрутасы
І на ігрышчы тупацелі,
А тут хадзіць больш не хацелі.
Таксама Уладзя да работы
Больш, чым да кніжак, меў ахвоты:
Любіў ён з цэпам завіхацца,
Або па лесе пацягацца,
Пабегаць з стрэльбај за лісамі
Ці за куніцај, ці тхарамі.
І бацька з гэтым пагадзіўся:
Што-ж? да навукі не радзіўся,
А вось мо' зь меншых што і будзе,
Няхај яны ўжо јдуць у людзі.
Алесь сядзіць, закон чытае
Або з сабою разважае,
А потым јзноў у кнігу ўткнецца
І сам сабе штось засьмяецца.
У Кастуся „Родное слово“;
Ён сьлібізуе ўсё нанова,
Але склады штось ня выходзяць
І хлопца ў злосьць адно прыводзяць,
Бо Костусь—хлопец нецярплівы,
У гнеў прыходзіць абурлівы;
Яго падштоўхвае спакуса
Сказаць зьнявагу на Язуса,
Які прад јім быў намалёван,
І Езус быў тут јім аплёван:
Чаму-ж бо ён не памагае,
Калі на гэта сілу мае?
А потым злосьць яго астыла,
Яму і прыкра і няміла,
Ён сам сябе чуць ня кусае.
Ох, галава яго дурная!
І ні на грош няма ёј кошту,
Яго хвалілі, а за вошта?
І хіба-ж Бог яго ня чуе?
Або яму Бог падаруе
Вось гэты страшны грэх зьнявагі?
Эх, Костусь, Костусь! Ты—брадзяга!
Выносіць сонца дзянёк новы
Скрозь гэты лес стары, хваёвы,
Дзянёк кароткі, чуць заметны,
Але вясёлы і прыветны.
Мароз бярэцца, паціскае,
Па лесе лускае, гуляе
І хусту тчэ на беражку.
За ноч падкінула сьняжку.
Міхал јідзе ў свае абходы,
А холад зімняе пагоды
Яго рухавіць і малодзіць.
І колькі тут разоў ён ходзіць!
Тут кожна сьцежка і дарожка
Яму даўно-даўно знаёма.
Міхал у лесе, як-бы дома:
Дзе ні ступала яго ножка!
Якіх куточкаў тут ня знае!
Міхал јідзе, сьляды чытае:
Вось тут танюткі ланцужок
Лёг так прыгожа на сьняжок—
То пара кропак, то дзьве рыскі,
Відаць, што мышчыны расьпіскі.
Другі малюнак, сьлед-трајчаткі
Па лесе кідаюць зајчаткі;
А ліс-хітрэц, выжыга чуткі,
Па сьнезе цягне шнур раўнюткі:
Сьлядок зь сьлядочкам супадае,
Бы лапка тут адна ступае.
Міхал јідзе. У лесе глуха;
Дарэмна зыкі ловіць вуха:
Вакол маўклівa і маркотна,
І лес застыў, глядзіць гаротна,
І толькі дзесь у ельняку
Шалпоча сојка на суку,
Ды стукне дзяцел троекротна.
Міхал јідзе адзін, пануры,
І сам ён хмур, і думкі хмуры,
Як гэты лес, сьнягамі сьцяты,
Або замоўлены, закляты.
Ды гэты лес, хоць ён і немы,
Але скрозь ціш халоднај дрэмы,
Скрозь гэты мёртвы сон зімовы
Вядзе зь Міхалам казкі-мовы.
У лесе кожная мясьціна—
Лужок, палянка, баравіна—
Асобны твар і выраз мае
І хоць што-небудзь выклікае
З таго, што памяць захавала
Так. Тут было ўсяго нямала,
Тут частка жыцьця лясьнікова.
Ну, хоць-бы гэта вось дуброва!
Грыбоў улетку тут цьма цьмушча,
Народ сюды јдзе—гушчај-гушча.
Тут шум, тут крык, тут гоман, сьпевы,
Аж разьлягаюцца ў ёј дрэвы.
І вось, бывала, пан прыкажа—
Сюды пасходзіцца ўся стража
І робіць цэлаю параду,
Як, дзе хітрэј зајсьці ў засаду,
І ўсё на гэтых людзеј бедных,
Ўсё з-за паноў тых ненаедных.
Садзісься, ловіш. А другая
І на білет рубля ня мае.
І мусіш драць і зь беднаты,
І вінават ня пан, а ты:
Не гаспадар злы—кажа ўсякі—
А гаспадарскія сабакі...
А гэты хвојнік абгарэлы!
Напэўна-б вышаў сказ тут цэлы,
Калі-б ад самага пачатку
Апавядаць вам пападку;
Але Міхалу няпрыемна,
Бо ј тут пан лаяўся дарэмна,
А ён стаяў, сьвяціў вачамі
Перад людзьмі і лясьнікамі.
Міхал јідзе, і думкі ходзяць
І ў пункт адзін яны прыводзяць:
Каб як зямлі сабе прыдбаць
І службы гэтае ня знаць,
Тады паны ўжо не пашкодзяць.
Ды толькі вось дзе закавыка:
Купіць зямлю—купіць ня лыка,
Тут грошы трэба—і ня сотка...
Эх, брат, рука, рука каротка!
Дзе ўзяць? І розум тут ня зьмесьціць
Але ўсё-ж думку Міхал песьціць,

*) Пол., пакрыв.—абсацы.

### Начлег у чужой канюшыне.

*Вёска Капачы, Палачанскай вол., Маладэчанскага пав.* Нашая вёска стаіць блізка балота, сенажаці ў нас мала дый тая балотлівая, так што скаціна й есьці навет ня хоча. Дык нашыя сяляне сталі засяваць на сваіх палёх кармовыя травы выку, сырадэлю й канюшыну. Сёлета, дзякуй Богу, кармовыя травы ў нас на палёх вельмі добра павырасталі. Людзцы вёскі Капачы вельмі цешыліся, што з поля зьбяруць і ўзапасяць на зіму корму жывёле.

Аж тут выйшла начай. Як толькі канюшына стала добра падрастаць, то зараз-жа пазнаходзіліся такія сябры, што прыяжджалі на начлег і навет бралі з сабою мяшкі, каб нажаць і дамоў вязьці. Шмат было такіх прыпадкаў, аж пакуль не злавілі гэных шкоднікаў. Вось як гэта было.

Уночы 27 чэрвіня сёл. зь в. Капачы Марыля Шэмет, Пiлiп Вірынскі і Вольга Вірынская пайшлі пільнаваць да канюшыны, ці ня прыедзе, часам, на начлег у канюшыну—думалі яны.

Зараз прыехалі на 4 конях у канюшыну. Папускаўшы коні свае, яны пачалі жаць канюшыну ў свае мяшкі. Тады Пiлiп Вірынскі чацьвярыцай (ракам) прапоўз да Капачоў і расказаў бацькам і суседзям, што дзеіцца. Бацька сабраў людзёў ды яшчэ была прызвана паліцыя з Палачан, каб злавіць гэных шкоднікаў. Іх пабачылі добра ў твар і навет папрыганялі да собскіх дамоў іхніх. Былі гэныя 4 чалавекі з суседняй вёскі Груздава.

Што рабіць з гэтымі шкоднікамі?

*Я. Крук.*

**Адказ Рэдакцыі.** Брыдка й нягодна крыўдзіць сваіх братоў суседзеў і няма ад гэтага нікому карысьці, а толькі шкода, бо сягадня скрыўдзе Лявон Язэпа, а заўтра Язэп Лявона. А колькі йдзе часу й грошаў на зваду й судовыя цяганіны з гэтай прычыны!? Што рабіць із шкоднікамі? Ведама, шкода зробленая павінна быць надгароджана. Пакрыўджаным трэба ўзяць солтыса, панятых і ацаніць шкоду. А тады, калі шкоднікі не захочуць за шкоду заплаціць самахоць, дык падаць іх у суд міравому судзьдзі, паставіўшы сьведак. З увагі на тое, што вышменаваныя шкоднікі належаць да людзёў, што павінны былі-б даваць добры прыклад іншым, мы пакуль што прозьвішчаў іхніх ня друкуем, але прозьвішчы іхнія будуць надрукаваны ў № 15, калі яны адмовяцца заплаціць за шкоду самахоць, бяз суду.

### Аб беларускай школе.

*(в-ка Гулі—Пастаўскага пав.)*

Школа ў нас ніколі ня зводзілася. За царызму нашае сялянства добра маскалізавалася расейскімі вучыцельмі. Але з наступленьням перавароту ў часе 1920 і 21 году былі зроблены першыя крокі ў дамаганьні сваей роднай беларускай школы. Аднак-жа першая завязь пачатай працы была зьнішчана ў раньнім расьцьвеце, бо ўжо у 1922—23 школьным годзе беларуская школа была зьмененая на польскаю. Але, хоць зьмянілася школа, не зьмяніўся, а яшчэ навет узмацніўся дух нацыянальнай сьведамасьці і культурнай патрэбы нашага сялянства. І калі стварылася магчымасьць ізноў ходацца за сваю роднаю школу, дык сялянства яшчэ з большай энэргіяй пачало ўпорнаю працу ў гэтым кірунку. Пачалося энэргічнае ходаньне з усімі перашкодамі, якія сустракаліся на кожным кроку, ці то з боку войта які адмаўляўся падпісаваць дэкларацыі, або з боку паліцыі і мясцовай польскай вучыцелкі М. Н. якія страшылі сялянства, што за беларускаю школу, якую сялянства хоча мець, не дастане ніякай. Аднак-жа нічога не памагло, ніякія перашкоды нас не змаглі, мы ўсё-ж такі хаця на палову дабіліся ў сваіх патрэбах. Кажу: на палову, хоця-ж паводле закону на паперы, нам далі ўсё чаго жадалі. Прасілі беларускай школы—маеце. Беларуская школа адчынена. Але што-ж? Толькі можна назваць беларускай, бо фактычна засталася тая самая 2 аддзяльная польская школа, якая існавала дагэтуль. Ці-ж дзе гэта чута, каб настаўнік вучыў дзяцей тое, чаго сам ніколі ня чуў, а калі і чуў дык брыдзіўся аб гэтым думаць.

А ў нас гэта здарылася фактычна, аб чым ніхто не запярэчыць, што ў беларускаю школу прыслалі нам тую самую вычыцелку, якая будучы тры гады ў нашай вёсцы ў польскай школе, ненавідзела ўсё тое, што ёсьць беларускім. Але мала таго, што ненавідзела, але не хацела нічога навет ведаць аб гэтым. Аж раптам, яна Марыя Наўроцкая, якая навет гаварыць пабеларуску ня ўмее, ня кажучы ўжо аб чытаньні й пісаньні, становіцца вучыцелкай беларускае мовы. Ну што-ж гэта была за навука? Навет і слова „навука“ тут ужыць ня можна, бо гэта было калецтва й зьдзек над беларускай мовай і беларускімі дзеткамі. Ня глядзячы на тое, што школа лічылася беларускай, у беларускай мове выкладалася толькі адна лекцыя ў дзень гэтак званае „чытаньне“. Але і то на гэтай лекцыі болей было кляцьбы на „chamski język“, як навукі. Вучыцелка замест растлумачыць вучням, каб маглі лепш уцяміць лекцыі зь беларускай мовы, часта загадывае вучням тлумачыць нязразумелыя ёй словы. І калі астатнія ня могуць ёй выразіцца адпаведня папольску, дык яна пачынае ўжываць такіх брыдкіх слоў да лаянкі дзяцей, беларускай мовы, якія навет не падходзяць да друку. А калі ўзяць наагул яе кваліфікацыі і паводзеньне ў ваднасінах ня то вучнеў, але вясковай моладзі, дык запраўды ёсьць чаму дзівіцца. Калі вучыцелка няведае колькі ў кілі ёсьць грамаў і ў парыве злосьці выстаўляе вясковым хлопцам аж пад насы хвігі, дык, здаецца, кожны можа трошку прадставіць яе кваліфікацыі. А што гэтыя факты запраўды былі, дык аб гэтым могуць пацьвердзіць тыя асобы, якія ад нашай пані чулі гэткаю навуку.

Першы з справай аб кілі Малевіч Юльян, а з другой справай Іг. Амельяновіч.

Пры гэтым трэба дадаць, што для дзяцей, як прынуку да навукі ўжывала часта палкі, замест адпаведнай сумленнай працы.

За праўдзівасьць гэтых слоў бярэ адказ цэлая вёска Гулі.

*Гулеўскія.*

# Што дзеіцца у сьвеце?

### Паміж Польшчай і Літвой.

За Віленшчыну, населянаю Беларусамі і толькі ў нязначнай частцы Літьвінамі, вось ужо восьмы год вядзецца ходаньне паміж Польшчай і Літвой. Пытаньням гэтым цікавяцца і іншыя гаспадарствы Эўропы, падзьдзержуючы адну ці другую старану. Раней Польшчу падзьдзержавала Францыя, але цяпер стала Польшчы спагадаць у гэтым пытаньні і Англія, бо яна хоча стварыць на ўсходзе Эўропы суцэльны фронт проці СССР. (бальшавікоў). Літьве прыяе Нямеччына, як гаспадарству варожаму Польшчы, так сама й СССР.

У вапошнім часе спачуцьцё Эўропы перайшло балей на бок Польшчы. Францыя й Англія зрабілі націск на Літву, каб яна паразумелася з Польшчай. Навет Нямеччына й СССР. парадзілі літоўскаму дыктатару Вальдамару адносіцца мярней да Польшчы.

Надовечы Літва паслала ў Раду Лігі Народаў ноту проці польскіх манэўраў на літоўскай граніцы. Польскі прадстаўнік, Сокаль, адказаў на гэтаю ноту, што гэта ня будуць манеўры, а толькі вайсковыя ўкладаньні („цьвічэньні“), пры гэтым на ліні Ашмяна—Іўе, значыцца далей ад літоўскай граніцы, як летась, бо летась былі на ліні Сьвянцяны—Падбродзе.

Польска-літоўская спрэчка будзе разглядацца на восенскай сэсыі Лігі Народаў.

### Нямеччына дамагаецца асвабаджэньня Узрэйня.

Пераможаная вайной Нямеччына, дзякуючы сваей працавітасьці і культурнай сьпеласьці, бязупынку й борзда адраджаецца й вызваляецца ад сваіх пераможцаў. У вапошнім часе галоўнай задачай Нямеччыны ёсьць асвабаджэньне Узрэйня (што ля р. Рэйна) ад францускай акупацыі. Узрэйне вельмі багатае ковам (мэталам) і патрэбнае Нямеччыне. Нямеччына цяпер становўка стала дамагацца адыходу з Узрэйня францускага войска.

Левая француская прэса прыхільна разглядае дамаганьні Нямеччыны, затое прэса правая протэстуе проці нямецкіх дамаганьнеў і падзьдзержуе дамаганьні Польшчы, каб перад звальненьням Узрэйня Нямеччына загварантавала польскія заходнія граніцы, як раней загварантавала ўсходнія граніцы Францыі пры помачы ўмовы ў Лёкарно. Здаецца, што жаданьні Нямеччыны, хоць у меншай меры, але будуць споўнены.

### За прылучэньне Аўстрыі да Нямеччыны.

Другой важнай справай Нямеччыны ёсьць прылучэньне да яе Аўстрыі.

Нядаўна ў сталіцы Аўстрыі, Ведані было традыцыйнае нямецкае сьвята песьні, на каторым прыймалі ўчасьце дзесяткі тысячаў пяюноў і пяюх із Нямеччыны. Сотні тысячаў гасьцёў слухалі пяяньня мноства хораў. Нямецкі й аўстрыяцкі міністар прамаўлялі на гэтым вялізарным сьвяце за прылучэньням Аўстрыі да Нямеччыны. Як бачым, Немцы не прапушчаюць жаднага здарэньня, каб ці то псыхолёгічна, як у прыпадку гэтым, ці гаспадарска, як у прыпадках іншых, гатаваць сабе дарогу да злучэньня.

## Ліст у Рэдакцыю.

Паважаны Грамадзявіне Рэдактару! Прашу не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

Добра ведамы беларускаму грамадзянстаў сваімі вельмі варожымі адносінамі да беларускага адраджэнскага руху, абліваючы памыямі беларускіх культурных і палітычных дзеячоў „Dziennik Wileński” не перастае цікавіцца і маёй асобай. Ня здолеўшы зрабіць зь мяне камуніста і камісара, аб чым ён пісаў ад пачатку 1927 году, цяпер ён імкнецца зрабіць зь мяне вар‘ята, бо запраўды-ж—прыпісаць тую хлусьню, якую прыпісвае мне „Dziennik Wileński“ ў № 157 ад 14 ліпня сёлета можна толькі вар‘яту альбо калі пішучы сам ёсьць вар‘ят. У вышэй азначаным нумары „Dziennik Wileński“ піша, быццам я сьцьвярджаю (twierdzę), што Міністэрства Рэлігіі й Асьветы запрапанавала мне пасаду беларускага праваслаўнага япіскапа.

Усувязі з вышэй пададзеным, знаходзячыся ў здаровым розуме заяўляю:

1. Праваслаўныя япіскапы у Польшчы пастаўляюцца ў япіскапскі сан згодна з § 10 тымчасовых правілаў ад 30 студня 1920 г. на падставе адпаведнай пастановы Сабору праваслаўных япіскапаў у Польшчы.

2. Япіскапы пастаўляюцца з манахаў, я-ж манахам не зьяўляюся і, як звычайны сьвяшчэнік, належу да белага духавенства.

3. Да япіскапскага сану ня толькі ня імкнуся дзеля таго, што шчасьліва жыву з сваей жонкай і ня маю падставы чакаць яе сьмерці, а і дзеля таго, што на царкоўным, культурным і эканамічным грунцо магу і па магчымасьці сваіх сілаў буду працаваць на карысьць роднага мне беларускага народу ў тым становішчы, у якім знаходжуся цяпер.

4. Ніякіх зносінаў зь Міністэрствам Рэлігіі й Асьветы ні ў справе япіскапства, ані ў іншых справах ня меў і ня маю і нікому аб гэтым нічога ня „цьвердзіў“.

Якое-ж мэты дамагаецца дасягнуць „Dziennik Wileński“, пішучы аба мне сваю хлусьню? Мэты чыста дэфэнзыўнае—зрабіць на мяне данос:

а) Духоўным уладам—Мітрапаліту й Япіскапам—быццам я імкнуся заняць чыё-небудзь зь іх месца.

б) Міністэрству Рэлігіі й Асьветы, быццам я прыпісаваю яму тое, чаго ніколі ня было.

в) Скампрамітаваць мяне сярод грамадзянства.

Апошняе мэты „Dziennik Wileński“ дасягнуўбы тады, калі б ён мяне хваліў, а калі лае—дык толькі выклікае пашану да таго, каго лае.

Ня жадаючы мець ніякіх зносінаў зь „Dziennikam Wileńskim“, я змушаны прасіць адрукаваць мой ліст у Вашай паважанай газэце зазначаючы, што гэты мой адказ зьяўляецца адказам як „Dzienniku Wilenskamu“, так і тым газэтам, якія гэтаю брахню яго ў сябе перадрукавалі, а такжа, што ў будучыні на ілжу „Dziennika Wileńskiego“ і падобныя да яго адказаваць ня буду.

*Сьвяшчэнік А. Коўш.*

19.VII—1928 г. Вільня, Летняя 7.

Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ“, Свята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.